Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

1929

№ 4

Красавік

ГОД ВЫДАНЬНЯ III



У паводку.

# ЗАКЛЮЧНЫ БАЛЯНС

## Бабруйскага акруговага таварыства паляўнічых на 1-е студзеня 1929 году.

АКТЫЎ

| №№ артыкулаў | Найменьне артыкулаў | Сума Паасобн. | | Сума Агульн. | | % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Каса гатоўкаю . . . . | — | — | 354 | 88 | 0,8 |
| 2 | Каштоўныя паперы . . . | — | — | 202 | 50 | 0,5 |
| 3 | Паі ва ўстановах. . . . | — | — | 400 | 00 | 0,9 |
| 4 | Вэксалі пакупцовы . . . | — | — | 5353 | 79 | 12,6 |
| 5 | Тавары па снабжэньню па сабекошту. . . . . | 24061 | 64 | — | — | — |
| | Товары для збыту (пушніна) | 2624 | 00 | 26685 | 64 | 62,8 |
| 6 | Маемасьць: розны інвэнтар і абсталяваньне. . . | 2145 | 11 | — | — | — |
| | Інвэнтар па барацьбе з драпежнікамі. . . . . | 308 | 34 | 2453 | 45 | 5,8 |
| 7 | Розныя асобы і ўстановы | — | — | 6522 | 29 | 15,3 |
| 8 | Камісійныя тавары . . . | — | — | 551 | 80 | 1,3 |
| | БАЛЯНС . . . | — | — | 42524 | 35 | 100 |

ПАСЫЎ

| №№ артыкулаў | Найменьне артыкулаў | Сума Паасобн. | | Сума Агульн. | | % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | КАПІТАЛЫ: | | | | | |
| | а) Асноўны . . . . . | 4835 | 77 | — | — | — |
| | б) Паявы . . . . . . | 19546 | 04 | — | — | — |
| | в) Запасны . . . . . | 280 | 72 | 24662 | 53 | 58 |
| | г) Капітал у маемасьці па барацьбе з драпежнікамі і культфонда . . . . | — | — | 571 | 06 | 1,3 |
| 2 | Вэксалі да плацяжу . . . | — | — | 3580 | 00 | 8,4 |
| 3 | Цэнтральнае праўленьне . | — | — | 7396 | 56 | 17,4 |
| 4 | Ссуды пад загатоўку пушніны . . . . . . . | — | — | 4184 | 32 | 9,9 |
| 5 | ВЫНІКІ: | | | | | |
| | а) неразьмяркованы прыбытак 1927 г. . . . . | 708 | 13 | — | — | — |
| | б) ад апэрацыі за 1928 г. . | 1421 | 75 | 2129 | 88 | 5 |
| | БАЛЯНС . . | — | — | 42524 | 35 | 100 |

*Старшыня праўленьня* ЁШЧЫК

*Рахункавод* СЫЧЭЎСКІ

*Сябры рэўкамісіі:* ШЧЭСЬ, ГІТКОВІЧ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

№ 4 КРАСАВІК 1929

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН БЕЛКАХОТСАЮЗУ
ГОД ВЫДАНЬНЯ 3-ці

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На 1 год . . | 2 р. — к. |
| На 6 м-цаў . . | 1 р. 20 к. |
| На 3 м-цы . . | — 70 к. |

АБВЕСТКІ:

| | |
|---|---|
| Старонка перад тэкстам | 150 р. |
| На апошн. стар. вокл. | 100 р. |
| Зззаду тэксту . . | 70 р. |
| Аб прапажы сабак . . | 1 р. |
| Аб прадажы сабак . . | 3 р. |

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*


## ЗЬМЕСТ






Двухгадовы свой юбілей „Паляўнічы Беларусі“ адзначае выпускам 15 нумару часопісі.

Гаварыць зараз аб тым, ці патрэбна было пачаць выдаваць часопісь, ня прыходзіцца, аб гэтым сьведчыць яго 10.000 тыраж. „Паляўнічы Беларусі“ да гэтага часу зьяўляецца аднэй з шматтыражных часопісяў на Беларусі, якую чытае паляўнічы-рабочы, селянін, вучань, вясковая інтэлігэнцыя, лясны вартаўнік і лясьнічы, вайсковы служачы і працаўнік установы, саматужнік і навуковы працаўнік Акадэміі навук.

Аб тым, што „Паляўнічы Беларусі“ дапамагае ў штодзённым жыцьці паляўнічаму, сьведчаць шматлікія лісты, якія атрымоўвае рэдакцыя і рэцэнзіі ў пэрыядычным друку.

— „Сьпяшаюся хутчэй вынесьці сваё шчырае прывітаньне і падзяку свайму блізкаму дапаможніку—„Паляўнічаму Беларусі“, якога пачаў чытаць толькі ў гэтым годзе“—піша ў рэдакцыю паляўнічы Арцюшоў С. з N-га стралковага палку. На падставе заметкі, зьмешчанай у № 1 за гэты год „аб клясавых элемэнтах ў працы паляўнічых арганізацый“, нашым бюро райкалектыву ўжыты меры, каб канчаткова пазбавіцца ад чужых нам элемэнтаў. Дзякуючы гэтаму, мы зараз амаль што канчаткова аслабаніліся ад кулацтва і варожых нам элемэнтаў, якія былі ў нашай паляўнічай арганізацыі.

А вось і другі ліст паляўнічага Рагачова:

— „У „Паляўнічым Беларусі“ я знайшоў вельмі шмат цікавых артыкулаў і асабліва апавяданьне Міхася Чарота „Пілілава Града“. У часопісі мы знаходзім шмат парад паляўнічаму. „Паляўнічы Беларусі“ распаўсюджвае культуру сярод паляўнічае масы“.

Такія лісты паступаюць у рэдакцыю штодзённа. Іх вельмі шмат. Але-ж наша задача сёньня заключаецца ня ў тым, каб хваліцца гэтымі лістамі, а каб падкрэсьліць усе дасягненьні і недахопы ў часопісі і намеціць далейшыя практычныя мерапрыемствы.

Узяць хоць-бы такую галіну працы, як аднаўленьне паляўнічай гаспадаркі. Чытач „Паляўнічага Беларусі“ ўжо з часопісі № 1 за гэты год ведае аб тым, як ў НКЗБ замарынаваўся 5-цігадовы плян аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі. „Паляўнічы Беларусі“ ўзяў гэтую цяганіну пад свой абстрэл і давёў яе да канца. Па заметцы, зьмешчанай з гэтага поваду ў часопісі, Эканамічная нарада пры Саўнаркоме катэгарычна прапанавала Наркамзему ў самы найхутчэйшы тэрмін скончыць складаньне 5-цігадовага пляну аднаўленьня паляўнічае гаспадаркі. Складаньне пляну скончана і ён хутка будзе разглядацца ў эканомнарадзе.

Па заметцы, зьмешчанай у гэтай-жа часопісі „Каапэратар, для якога законы ня пісаны“, Магілеўскай акрпракуратурай вядзецца расьсьледваньне. Па шэрагу іншых заметак ужо ўжыты практычныя меры.

Але-ж сказаць, што ў гэтым напрамку намі ўжо ўсё зроблена,—нельга. Самакрытыку ў часопісі трэба яшчэ больш разгарнуць, нам

трэба зрабіць так, каб „Паляўнічы Беларусі“ стала сапраўды кіруючым органам цэнтру паляўнічае каапэрацыі і каб усе мерапрыемствы партыі і савецкага ўраду, зьвязаныя з працай ў нашай каапэрацыі, праводзіліся ў жыцьцё.



Лепшы зборшчык падпіскі на часопісь „П. Б.“ па БССР, Старшыня слуцкага калектыву т. Кітнеўскі.

Анкета допыту, якую мы правялі ў 1928 годзе, дала нам магчымасьць наладзіць цесную сувязь з масай чытачоў, дала магчымасьць устанавіць, якія групы паляўнічых чытаюць часопісь, іх думку аб часопісі, запатрабаваньні і г. д. і г. д.

Значна за гэты час узрос карэспандэнцкі склад часопісі. Карэспандэнтам пасылаюцца лісты аб тым, як пісаць і што пісаць.

З тыражом часопісі нам пахваліцца нельга. 13.000 тыраж мінулага году, замест далейшага росту, зьнізіўся ў гэтым годзе да 10.000.

Праўда, тут ёсьць прычыны і іншага парадку (ачышчэньне саюзу ад кулацкіх і іншых варожых нам элемэнтаў), але-ж і пры гэтых умовах тыраж часопісі павінен быў-бы дайсьці да 20—23.000, прымаючы пад увагу, што, дзякуючы ўзросту культурнага ўзроўню насельніцтва, друк з кожным годам не зьмяншаецца, а расьце.

Пытаньне падняцьця тыражу часопісі, праз якую можна праводзіць усе мерапрыемствы, зьвязаныя з аднаўленьнем паляўнічае гаспадаркі, вядзеньне культурна-асьветнае работы, палепшаньне якасьці работы павінны стаць у асяродак увагі ўсіх паляўнічых, райбюро калектыву і акруговых праўленьняў. Вярбоўка падпісчыкаў павінна праводзіцца ня толькі ў часе кампаніі па перарэгістрацыі і ня толькі сярод паляўнічых, а на працягу ўсяго году і сярод усяго насельніцтва.

На дасягненьнях, якія мы маем, спыніцца нельга. Шмат чаго яшчэ трэба зрабіць, каб часопісь цалком і поўнасьцю зацікавіла чытача. Асаблівую ўвагу нам зараз-жа трэба зьвярнуць на выкананьне дырэктывы партыі аб каапэраваньні беднаты, разгортваньні самакрытыкі, правядзеньне чоткае клясавае лініі ва ўсёй штодзённай працы паляўнічае каапэрацыі, ачыстка нашага апарату ад варожага элемэнту (а іх у апараце паляўнічай каапэрацыі больш як дзе-бы то ні было), барацьба з бюракратызмам і цяганінай, барацьба з безгаспадарчасьцю і г. д. і г. д.



Актыўны карэспандэнт і добры зборшчык падпіскі т. Жук (Смалявіцкі р.).

Усе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца важнымі і адказнымі і іх „Паляўнічы Беларусі“ зможа правесьці ў жыцьцё толькі пры дапамозе шырокіх колаў паляўнічых, толькі пры садзейнічаньні „охоткоров“.

Спадзяёмся, што ў гэтай працы паляўнічая маса дапаможа.

# ЧЫТАЧ ГАВОРЫЦЬ.

## Справаздача рэдакцыі па анкеце, якая праведзена ў 1928 годзе.

Як і трэба было чакаць, анкета „Паляўнічага Беларусі“ за 1928 год дала вельмі каштоўны мат'ял, які дапаможа рэдакцыі будаваць зьмест часопісі ў 1929 годзе, згодна пажаданьняў масавага чытача і ўстанавіла дакладна, хто чытае „Паляўнічы Беларусі“. На адвароце анкеты шмат чытачоў пісалі скаргі аб непарадках ў некаторых паляўнічых арганізацыях і г. д.

### Хто чытае часопіс.

Большасьць чытачоў нашага часопісу—сяляне,—іх 54%, за імі ідуць служачыя—29%, рабочыя—15%, саматужнікі—1% і вучні—1%.

54% сялянскіх падпісчыкаў сьведчаць аб тым, што часопісь даступна для вясковага насельніцтва і задавальняе патрэбы як паляўнічага поўпрамыслоўца, так і паляўнічага-аматара. Нельга не адзначыць і такі радасны факт, што часопісь пачалі выпісваць некаторыя культурнікі вёскі (настаўнік, аграном, фэльшар, лясьнічы, хата-чытальня, школа і г. д.). Па свайму ўзросту больш чытачоў ад 22-30 год.

### Што сказаў чытач.

З усіх чытачоў, якія прыслалі свае анкеты ў рэдакцыю, толькі адзін адказаў, што: „ни одна статья мне особенно не понравилась“; два адказалі „ня зусім падабаецца“, астатнія адказалі „падабаецца“. На пытаньне, ці трэба завесьці аддзел „Прырода“, 99% чытачоў адказалі: „трэба і неабходна“. Аб выданьні часопісі раз у два месяцы



Актыўны карэспандэнт з Магілева т. Манькоўскі.

ці раз у месяц, 98% выказалася за штомесячнае выданьне.

Аб недахопах часопісі выказалася 28% і амаль што кожны па рознаму. Сялянскі чытач лічыць неабходным завесьці ў часопісі сельскагаспадарчы аддзел, вучань—палітычны аддзел, лясьнік лічыць неабходным завесьці спэцыяльны аддзел „барацьба з браканьерствам“, рыбалоў выказаўся за пашырэньне аддзелу рыбніцтва, вайсковы служачы лічыць неабходным пашырыць аддзел стралковы, навуковы працаўнік Цэнтральнага бюро краязнаўства—сакратар Фэналёгічнае камісіі піша „хорошо было-бы увеличить отдел из жизни природы, уделив достаточно места кольцеванию птиц“. Шмат чытачоў выказалася за ўвядзеньне спэцыяльнага аддзелу парадаў паляўнічаму. І, нарэшце, на пытаньне—„вашы скаргі“, 10% чытачоў скардзіліся на несваечасовае атрыманьне часопісі і несваечасовае выданьне.




З часопісяй „П. Б.“ на паляваньні.

Цікава заўважыць, што 30% чытачоў на адвароце анкеты напісалі скаргі аб розных бюракратычных адносінах з боку некаторых кіраўнікоў паляўнічымі арганізацыямі на мясцох да паляўнічых; аб кепскім забесьпячэньні шротам і г. д. і г. д.

Такім чынам анкета дае шмат цікавага матар'ялу ня толькі аб часопісі, але і аб рабоце паляўнічых арганізацый на мясцох.

**Пажаданьні чытача.**

На пытаньне: „Агульныя пажаданьні на 1929 год“, большасьць адказала: „жадаем „ПБ“ паляпшаццa па зьместу з кожным днём“, жадаем, каб у 1929 годзе яго чытала ўся паляўнічая маса, „павялічыць тыраж часопісі“ і г. д.

Вось усё тое, што сказаў чытач аб сваёй часопісі. Мы спадзяёмся, што ўсе прапановы і пажаданьні чытача будуць праведзены ў жыцьцё.

**Рэдакцыя**

# Праф. А. В. Федзюшын аб часопісі.

Тры гады прайшло з таго часу, як VI зьезд упаўнаважаных саюзу паляўнічых вынес рашэньне аб неабходнасьці выданьня часопісі, на старонках якойбы асьвятляліся набалеўшыя пытаньні паляўнічае гаспадаркі і культурнага выхаваньня паляўнічае масы БССР.

Гэта рашэньне, у выніку недахопу сродкаў і адсутнічаньня ўпэўненасьці ў тым, што паляўнічыя масы пойдуць насустрэч пажаданьням часопісі і самому яе распаўсюджваньню, не магло быць адразу ажыцьцёўлена і прымусіла зрабіць папярэдні вопыт у выглядзе пэрыядычнага асьвятленьня пытаньняў беларускага паляваньня на старонках найбольш папулярнай у вёсцы газэты—„Беларуская Вёска“ ў аддзеле „Куток паляўнічага“. Гэты вопыт упэўніў, што зацікаўленьне ў мас да пытаньняў паляваньня і ўласнага культурнага разьвіцьця—маецца, што неабходна выданьне ўласнае паляўнічае часопісі і што апошняя знойдзе гарачую падтрымку на мясцох. І, вось, два гады таму назад у красавіку вышаў першы нумар часопісі „Паляўнічы Беларусі“.

Праграма часопісі з першых-жа нумароў зазначылася вельмі станоўча. На перадавых старонках часопісь ня ўпусьціла магчымасьці асьвятленьня найбольш актуальных пытаньняў бягучага моманту ў жыцьці саюзу,—былі пытаньні ваенізацыі насельніцтва, разьвіцьця стралковае справы, пытаньні беларусізацыі,—юбілейныя дні Кастрычніка, пастановы зьездаў партыі, водгук на працэс Беларускае грамады, чарговыя ўдарныя кампаніі—пасяўная, пазыка, загатовак каапэр., самакрытыка і г. д. і г. д. Не малое месца, параўнаўча з разьмерам, удзялялася пытаньням і чыста прафэсыянальным, пытаньням паляўнічае гаспадаркі, сабакагадоўлі і г. д. Асобнае месца ў часопісі адвезена справе рыбнай гадоўлі і лоўлі. Апрача того, пэрыядычна асьвятлялася жыцьцё на мясцох і шляхам зьмяшчэньня карэспандэнцый падпісчыкаў. Пастаўлен аддзел кнігасьпісу. Белетрыстычнага матар'ялу ня шмат, але, можна сказаць, маючы на ўвазе асноўныя задачы часопісі, і яе разьмер, гэта не зьяўляецца вялікім недахопам. З канца 1928 г. часопісь заводзіць новы аддзел—„Прырода“, дзе павінен асьвятляцца матар'ял як агульна натуралістычнага характару, так і пытаньні, зьвязаныя, галоўным чынам, з жыцьцём нашых паляўнічых і г. д.

Першыя тры нумары „Паляўнічы Беларусі“ за 1929 год настолькі пастаўлены добра, што ўжо і з надворнага боку і па зьместу часопісь „ПБ“ можа канкураваць з адпаведнымі выданьнямі і іншых, ня толькі саюзных рэспублік, але з якімі-небудзь, нават замежнымі выданьнямі (напрыклад балгарскае часопісі „Природа и ловъ“.

У якасьці пажаданьняў часопісі можна паказаць на неабходнасьць яшчэ большага разгортваньня аддзелу „Прырода“, „Заграйнічны агляд“, больш даваць матар'ялу адносна практычных пытаньняў у справе арганізацыі паляўнічай гаспадаркі, зьмяшчаць статыстычныя даныя аб нашым і саюзным паляваньні. Гэтыя аддзелы найбольш могуць быць цікавымі для паляўнічых, якія хочуць палепшыць становішча нашай гаспадаркі і якія шукаюць адказаў на свае запытаньні на старонках „Паляўнічага“.

О. Сапрык.

# Мае пажаданьні часопісі.

САЮЗ паляўнічых Беларусі мае сваю часопісь. Гэта вялікае дасягненьне. Шпаркі колькасны рост саюзу прымушае папрацаваць над якасным бакам яго членаў. У гэтай адносіне трэба зрабіць так, каб часопісь была першым сябром, памочнікам і абаронцам нашага паляўнічага, які жыве ў вёсцы. У яго цёмную цесную і забруджаную хату культрэвалюцыю павінна несьці часопісь ПБ. Яна павінна быць сьветачам гэтага замкнутага адзіночкі. Усе пытаньні палітычнага і культурнага жыцьця краіны павінны быць як найлепш асьвечаны на яе старонках. Затым павінен ісьці аддзел вывучэньня паляўнічае гаспадаркі і спосабы яе далейшага разьвіцьця. Гэты аддзел у нас кульгае. Трэба райкаляктывам увесьці ў абавязак даваць сваячасовую і дакладную інфармацыю аб жыцьці на мясцох. Ніводнае важнае пытаньне не павінна мінуць зоркае вока „ПБ“. Часопісь павінна адгукнуцца на ўсе бакі мясцовага жыцьця. Між тым, гэтага жыцьця на старонках часопісі яшчэ ня відаць, а калі пападаюцца кароткія заметкі з месц, дык іх вельмі мала і яны так рознахарактарны і бяссыстэмны, што па іх нічога нельга судзіць аб тым, што робіцца ў нашых „воўчых кутках“. Па недахопу матар‘ялу з месц часопісь запаўняецца і матар‘ялам менш каштоўным. Друкуецца тое, што дае гарадзкі паляўнічы. Калі мы, пісьменныя члены саюзу з вёскі, ня будзем пісаць, дык мы ня зробім нашу часопісь жывым нэрвам нашага саюзу, сапраўднай люстрай нашага жыцьця і яна будзе сухой, нуднай і няцікавай.

І так, таварышы, мы павінны для яе даваць каштоўны матар‘ял з нашага жыцьця. Праўдзівыя адбіткі жыцьця даражэй усяго для падняцьця і палепшаньня справы. Нікому не сакрэт, што нядаўняшнія браканьеры папалі ў наш саюз і губяць астачу каштоўнай рэдкай дзічы.

Далей, у часопісі трэба падзяляцца вопытам і практыкай сваёй мясцовай працы. Так, у „ПБ“ зьмяшчалася картка лепельскага паляўнічага Міронова, які штогод забівае па 10 ваўкоў. Для паляўнічых выгляд Міронава нічога не гаворыць. Вельмі больш было-б карысьці, калі-б сам Міронаў альбо хто-небудзь з яго суседзяў выклаў спосабы паляваньня Міронава на ваўкоў.

Нельга не сказаць некалькі слоў аб праграме А. Фядзюшына для новага аддзелу „Прырода“. Праграму гэту трэба прыняць і па ёй весьці аддзел. Да супрацоўніцтва ў гэтым аддзеле трэба прыцягнуць нашы культурныя сілы.

---

Бялян.

# Аб сельскіх ячэйках паляўнічай каапэрацыі *).

Масавая і культурна-асьветная праца зьяўляецца самым слабым месцам у нашай каапэрацыі. Калі ўзяць такія мерапрыемствы, як перарэгістрацыя, пушныя загатоўкі, падпіска на часопіс,—дык нездавальняючае становішча апошніх у гэтым годзе гаворыць аб тым, што вакол гэтых мерапрыемстваў ня было праведзена неабходнай растлумачальнай працы, а калі ўзяць такія галіны працы, як барацьба з драпежнікамі, браканьерствам, з парушэньнямі дысцыпліны, выхаваньня паляўнічага, разьвіцьцё стралковай справы, то яны вядуцца вельмі нездавальняюча. Амаль што нідзе не вядзецца сталай сыстэматычнай працы.

Галоўнымі прычынамі гэтага зьяўляецца тое, што з боку акруговых праўленьняў і раённых каляктываў ня зьвернута ніякай увагі да гэтага часу на арганізацыю паляўнічага актыву. У большасьці выпадкаў працуе толькі штатны і платны склад. Перашкодамі ў гэтай працы зьяўляецца таксама перагружанасьць паляўнічых працаўнікоў, якія жывуць у раённых цэнтрах, адсутнасьць магчымасьці стала наведвацца за далёкай адлегласьцю паасобных вёсак і г. д.

Такое становішча прывяло да думкі арганізаваць нізавое зьвяно ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі—сельскія ячэйкі.

Мы лічым, што паляўнічыя ячэйкі і павінны будуць зьяўляцца асяродкам разгортваньня масавай працы. Возьмем, напрыклад, барацьбу з браканьерствам,—хто можа бліжэй стаяць да гэтай справы, як не паляўнічы, пражываючы на вёсцы. Ячэйка можа арганізаваць працу па барацьбе з разбурэньнем птушыных гнёздаў, паставіўшы гэтае пытаньне перад сельскім саветам, культкамісіяй і настаўніцтвам і сама сачыць за правядзеньнем растлумачальнай працы сярод вучняў і моладзі. Ячэйка таксама можа арганізаваць чытку паляўнічай літаратуры, наладзіць распаўсюджваньне яе сярод паляўнічых і сялянскай масы, высьвятляць пытаньні, якія датычаць паляўнічай гаспадаркі.

Бюро або старшыня сельскай ячэйкі павінны будуць мець сувязь з раённым каляктывам і інфарміраваць паляўнічых аб усіх мерапрыемствах, якія праводзіць райбюро і акруговае т-ва паляўнічае каапэрацыі.

Такім чынам ячэйка мае ўсе магчымасьці для разгортваньня масавай працы. На падставе палажэньня, зьмешчанага ў гэтым № часопісі аб сельскіх ячэйках, яны могуць арганізоўвацца ў сельсаветах, дзе жыве ня менш 5 паляўнічых. Аб‘яднаньне нават такой малой колькасьці дае ўжо перавагу, бо такая маленькая група паляўнічых зможа весьці тую ці іншую працу.

З боку акруговых праўленьняў і раённых каляктываў павінны быць прыняты ўсе меры да найхутчэйшай іх арганізацыі. Мы лічым, што гэтае новае мерапрыемства знойдзе жаданы водгук сярод паляўнічай масы.

*) Глядзі ў афіцыйным аддзеле часопісі „Палажэньне аб сельскіх ячэйках паляўнічае каапэрацыі“.




**П. Елагін.**

„Зьвярок маленькі,
ды ўдаленькі“.

# Трусы*).

КОЖНАЙ часткай свайго цела трус прыносіць карысьць чалавеку: мяса смачнае і пажыўнае. Скуркі, зьнятыя з трусоў у час лінаньня або папсаваныя пры зьняцьці, наогул няпрыгодныя для прыгатаваньня мехавых рэчаў, агаляюцца, пры чым пух—валасы, выкарыстоўваюцца для прыгатаваньня крэпкага фэтра, а скура ідзець на вырабку замша і лайка. Пух асобнай пароды трусоў—„ангорскіх“ незаменны матар'ял для прыгатаваньня найлепшых лёгкіх і цёплых рэчаў. Брак—абрэзкі скуры, лапкі, вушы, галовы і косьці ідуць на прыгатаваньне найлепшага сталярнага, так званага, багэтнага клею, у рэшце мех трусіка ідзець на ўсякія мехавыя вырабы.

З вырубкаю вялізных лясных масываў у заходняй Эўропе, а часткай і ў СССР, шмат якія з дзікіх пушыстых зьвяркоў страцілі свой прытулак, а тут яшчэ падасьпеў, згодна сучаснай модзе, узмоцнены попыт на мех і цэны на іх высока падняліся, што выклікала драпежніцкае зьнішчэньне пушных зьвяроў, і ў мясцох, дзе пладзілася ня мала пясцоў, чорна-бурых лісіц, куніц і інш. пастаўшчыкоў каштоўных мяхоў, зараз дзе-ні-дзе, толькі ў адзінкавых экзэмплярах можна сустрэць гэтых зьвяркоў. У Амэрыцы, дзе плоцяць вялікія грошы за мехавы тавар, узьніклі фэрмы для разьвядзеньня высокагатунковых лісіц, собаляй і куніц. Справа гэта ў апошнія гады пашырылася, і лісічых і іншых фэрм ужо налічваецца ня мала тысяч, пры чым уладары іх, звычайна, займаюцца гэтай справай не спэцыяльна, а будуюць падобныя фэрмы пры сваіх гаспадарках і атрымліваюць вялікі прыбытак, які нярэдка складаецца з шмат тысяч рублёў у год. У нас-жа разьвядзеньне пушных зьвяроў у няволі толькі пачынае пашырацца. Разьвядзеньне трусоў, мех якіх, калі яго адпаведна апрацаваць—афарбаваньне, зьнішчэньне жорсткіх осьцяй, падстрыганьне, бяленьне і інш.—справа таксама вельмі карысная і зможа зьявіцца падабенствам цэлага раду каштоўных мяхоў: далікатнага коціка, пясца, куніцы, беласьнежнага гарнастая, срэбрыстай лісіцы, бабра, кенгуры і інш. Падробка трусавага меха зараз дасягнула такога ўдасканаленьня, што нярэдка толькі вопытнае вока мехаўшчыка зможа адрозьніць ад меха каштоўнага зьвярка.

Праўда, мех труса па крэпкасьці ўступае натуральным мяхам, але, па-першае, не на шмат, а падругое, зараз, пры хутка зьменьваючайся модзе, калі адзін год патрабуе такога зьвярка, а на наступны год зьменьваецца якой-небудзь тканінай, затым у модзе ўжо іншы мех і г. д., недарагія трусавыя мяхі могуць адслужыць добрую службу.

Скуркі труса не аднаго колеру, а стракатыя, як, напрыклад, труса „галяндзкага“, „ангельскай бабачкі“, „японскага“ і інш., часьцей выкарыстоўваюцца ў натуральным выглядзе, гэта значыць без афарбоўкі, на выраб жаночых муфт, пералін, коўдрыкаў, пакрывал і г. д.

Сярод мехавых тавараў трусавы скуркі, па ліку прадаваемых скурак у сусьветным гандлі, зараз займаюць трэцяе месца, пасьля скурак вавёркі і мускуснага пацука, або „амэрыканскага выхухоля“ (андатры). Адна толькі Францыя штогод выкідае на рынак да 100 мільёнаў трусавых скурак, затым ідуць Англія, Аўстралія, Бэльгія і іншыя краіны.

Мех труса добра цэніцца толькі тады, калі скуркі былі зьняты пасьля сканчэньня васеньняй лінкі, калі пух на ім густы, шчыльны, а валасы доўгія—адпаведна пародзе трусаў, калі на скурцы няма спадарожных лінцы жоўтых і шэрых плям. У нас—сьнежань і студзень будуць лепшым часам для атрыманьня „мехавых“ скурак. Найлепшы—густы, з доўгімі валасамі, мех маецца на сярэдзіне (на хрыбце). Гушча меха азначаецца раздуваньнем яго, і калі ў раздутым месцы ня будзе прасьвечвацца скура, дык лічаць мех дастаткова добрым.

Колер скурак—афарбоўка цэніцца роўная па ўсяму мехавому пакрову, дапушчаецца толькі невялікае згушчэньне колеру на сярэдзіне. Няправільная афарбоўка—плямы больш цёмнага або сьветлага колеру дапушчаюцца толькі пад пузам і лапках.

Цэны на скуркі галоўным чынам рэгулююць мода, а затым і лік аднародных—аднаколерных скурак, наогул аднолькавых якасьцяй па пушыстасьці і даўжыні валасоў, гэта значыць асобныя скуркі цэняцца таньней падабраных у цэлы мех, дастатковы для прыгатаваньня цэлай рэчы, напрыклад, на пальто, сак, вялікую муфту і інш.

*(Працяг будзе).*

*) У выдавецтве „ПБ“ маецца рукапіс праф. П. Н. Елагіна „Доходное кролиководство“. У недалёкім часе мяркуецца прыступіць да друку гэтай брашуры.

Рэд.

В. Данькоў.

# Папярэднія вынікі пушных загатовак.

КАМПАНІЯ па пушных загатоўках скончылася і ня гледзячы на ўсе спрыяючыя ўмовы выканаць заданьні некаторыя нашыя акрпраўленьні загатоўчы плян паляўнічае каапэрацыі выканалі толькі на 48,14 проц., па акругах-жа выкананьне плянаў такое:

Полацкае акруговае таварыства выканала 71 проц. свайго заданьня да гэтага часу. Менскае 70 проц., Магілеўскае 55 проц., Віцебскае 45 проц., Гомельскае 40 проц., Бабруйскае 40 проц., Мазырскае 37 проц., Аршанскае 16 проц.

Горш за ўсіх выканала плян загатоўкі Аршанскае акруговае таварыства. Гэта характэрызуецца, з аднаго боку, халатнымі адносінамі праўленьня да работы наогул,— а з другога, да пытаньня загатовак. Што датычыць апошніх праўленьняў, дык і тут былі памылкі ў загатоўках, хаця сама падрыхтоўчая кампанія і была праведзена добра і можна было чакаць стопроцантнага выкананьня. Недавыкананьне заданьняў ёсьць ня толькі ў нас, у паляўнічае каапэрацыі, а і апошнія аснаўныя загатавіцелі ня выканалі сваіх плянаў.

Дзяржгандбел выканаў свой плян на I-II на 46 проц., Белсельсаюз 43 проц. і Белкапсаюз 62 проц.

У некаторых установах нас, паляўнічую каапэрацыю, абвінавачвалі ў тым, што кепска кіравалі паляўнічымі і дзякуючы гэтаму ня было той колькасьці адстрэла зьвера, якая-б забясьпечыла выкананьне пляну поўнасьцю. Гаварыць аб гэтым, вядома, ня прыходзіцца, бо ня гэта мела ўплыў на ход загатовак, а, галоўным чынам, адбілася тое, што з восені, з пачатку сэзону загатовак, лілі ўвесь час дажджы, якія потым зьмяніліся вельмі суровай зімой. У гэтым паляўнічым сэзоне ня было ніводнай добрай адлегі—добрага паляўнічага дня, таму паляваньне ня ўчынялася і частка зьвера засталася неадстрэленай. Апрача таго мела ўплыў на загатоўку і зьбядненьне БССР пушным зьверам. Бязумоўна, мела уплыў на ход загатовак і загатоўчая кампанія мінулага году, калі тыя-ж асноўныя загатавіцелі, падымаючы на рынку ажыятаж, пераплачвалі амаль на сто працантаў супроць сындыцыраваных цэн. Таксама адбілася на загатоўках зьніжэньне супроць мігулага году сындыцыраваных цэн на пушніну. Усё гэта, разам узятае, як: пераплаты, зьніжэньні цэн, заставіла паляўнічага затрымаць дабытую ім пушніну, чакаючы пажаданай цаны, але і гэта не магло мець настолькі значнага ўплыву. Прычыны знаходзіліся, галоўным чынам, у моцных марозах, пашкодзіўшых паляваньню. Гэта падкрэсьліваецца яшчэ і тым, што зараз мы назіраем вякікую колькасьць застаўшыхся зьвяроў.



Пасьля ўдалага паляваньня на ваўкоў. (Плешч. р., Мен. акр.).

---

В. Е—ов.

# Выкармливание кобчиками птенцов чеглока.

Весьма интересные наблюдения по биологии кобчиков и чеглоков удалось произвести зоологу Звереву на Сибирской краевой станции защиты растений.

За одним из гнезд кобчиков (Erytgropus vespertinus L.) было установлено регулярное, изо дня в день, наблюдение. В этом гнезде 14 июля 1927 г. вылупилось два птенца, остальные два яйца оказались болтунами. Родители усиленно кормили птенцов, главным образом, саранчевыми. Через месяц 15 августа кобчиков у гнезда уже не было, а кормлением птенцов занимался чеглок (Hypotriorchis sabbateo subbateo L). В соответствии с последним обстоятельством изменился и характер пищи птенцов. Все гнездо были усеяно перьями и пухом мелких птичек, главным образом, жаворонков. При внимательном осмотре птенцов они оказались чеглоками, а не кобчиками, как полагали сначала. Таким образом, оказалось, что яйца были снесены чеглоком, высидели же их и кормили первое время птенцов кобчики, которые затем уступили свое место настоящим родителям, вернее, только отцу, так как самки чеглока не было замечено у гнезда. В чем здесь дело, почему произошла смена родителей, понять трудно. Зверев делает такое предположение: самка чеглока, снеся яйца, погибла. Случившаяся поблизости пара кобчиков, собиравшаяся класть яйца, заметив гнездо с яйцами, отложили туда и свои. Нужно заметить, что яйца чеглоков и кобчиков очень сходны друг с другом. Далее началось выси-

живание и через определенный срок из яиц чеглока в нормальный срок вылупились птенцы, а яйца кобчика оказались болтунами. Подросшие птенцы своими криками привлекли взрослого чеглока, возможно, их отца, который и ранее был наблюдаем возле гнезда. Проснувшийся родительский инстинкт и заставил чеглока приняться за воспитание птенцов, кобчикам же пришлось уступить свое место.

Интересные наблюдения сделаны Зверевым над ростом птенцов чеглока. Один из птенцов в среднем увеличивался в весе ежедневно на 15 граммов, а другой на 7 гр. Наиболее интенсивно увеличивалось в размерах крыло, прибавляясь в длину ежедневно на 0,5 сантиметров. Перед вылетом из гнезда вес птенца перестал прибывать и даже снизился с 302 на 225 граммов. Такое снижение веса наблюдается у птенцов и других хищных птиц, совпадая со сменой пухового наряда на перья. Перья у птенцов стали появляться, примерно, через две недели после вылупления из яйца.

## Курсы па загатоўцы сыравіны.

Пры Віцебскім Каапэрацыйным тэхнікуме ў бягучым годзе арганізаваны 4-месячныя курсы працаўнікоў па загатоўцы ўсіх відаў сыравіны. Склад курсаў—80 чалавек, камандыраваных з усіх акруг БССР. Курсы падзелены на 3 групы. Першая група—па жывёлавай сыравіне, другая—па мясу, трэцяя—па ільновалакну і ільносемю.

Гэта першыя вопыты падрыхтоўкі ў нас працаўнікоў па загатоўках (прыёмшчыкаў) сыравіны з тэарытычнай навуковай падрыхтоўкай, хаця-б і параўнаўча лементарнай.

Першая група знаёміцца з пабудовай пушной скуркі, і наогул з справай дабываньня і загатоўкі пушніны раней і зараз, а таксама і з ведамі аб пушніне ў гандлёвым балянсе краю. Яны прывыкнуць глядзець на скурку пушнога зьвера, як на вядомую каштоўнасьць пры ўмове поўнай сьпеласьці і правільнай праўкі і захаваньня, а разам з тым будуць даражыць і насіцеля гэтай скуркі—пушнога зьвера. Гэтыя-ж працаўнікі будуць весьці і барацьбу з браканьерствам, бо будуць мець магчымасьць даказаць наглядна ўсю шкоду і некарыснасьць дабываньня зьвера ня ў час; знаёмства з правільнымі мэтадамі зьняцьця і праўкі скурак дазволіць ім перадаць гэтыя веды масам, якія дабываюць зьвера—нашым паляўнічым. Наогул можна толькі пажадаць, каб такія курсы будаваліся штогод, незалежна ад месца іх арганізацыі, яны ўсюды прынясуць карысьць як справе загатовак наогул, так, у прыватнасьці, нашай паляўнічай гаспадарцы. **Б. С.**

## Аб тэрмінах паляваньня.

У № 4-м „Паляўнічы Беларусі“ за 1928 год мною было ўзьнята пытаньне аб зьмене тэрмінаў паляваньня некарысных ня толькі для справы пушной загатоўкі, але і наогул для паляваньня. Пытаньне гэта ўзьнімалася мною на падставе назіраньняў за прыплодам дзічы і зьвера ў мінулым годзе па Віцебскай акрузе. Узьнімаючы гэта пытаньне ў друку, я лічыў, што і іншыя паляўнічыя і паляўнічыя арганізацыі адклікнуцца на гэта і паведамяць, які прыплод быў у 1928 годзе па ўсёй БССР, які ўплыў мелі, настолькі кепскія для паляўнічай гаспадаркі, кліматычныя ўмовы 1928 году, што зрабіць у наступным для абмежаваньня ад недародаў у паляўнічай гаспадарцы.

Мне здавалася, што шляхам каляктыўнага абмеркаваньня гэтага пытаньня ў друку мы падрыхтуем глебу для абгаварэньня яго на Усебеларускім зьезьдзе. Між тым, вышла з друку ўжо 5 нумароў часопісі „Паляўнічы Беларусі“, а водгукаў на маю прапанову не пасьледвала ні ад асобных паляўнічых, ні ад паляўнічых арганізацый.

Ня хочацца верыць, што гэта тлумачыцца поўным адсутнічаньнем інтарэса да паляўнічае гаспадаркі, што паляўнічая маса зацікаўлена толькі адстрэлам дзічы, а не павялічэньнем колькасьці і якасьці і наогул захаваньня яе. Тлумачыць гэта можна толькі нашай халатнасьцю, няўважлівымі адносінамі да паляўнічай літаратуры і г. д., г. з. усім тым, што неабходна выжыць раз назаўсёды.

Вынікі загатовак пушніны ў 1928-29 годзе гавораць нам аб тым, што пытаньне аб тэрмінах паляваньня і аб іх зьмене у бок захаваньня інтарэсаў паляўнічай гаспадаркі і пушных загатовак, трэба абмеркаваць. **Б. С.**

## Не страляйце ўвясну рыбы.

Традыцыйнай даўнасьцю ўкаранілася ў нашых паляўнічых глушыць з стрэльбаў увясну рыбу, ня гледзячы на тое, што гэта вельмі шкодна адбіваецца на рыбнай гаспадарцы, бо ў часы нераста ня толькі глушыцца вялізарная колькасьць рыбы, у асаблівасьці буйнай, што, бязумоўна, забараняецца зараз законам, але страляніна шкодна адбіваецца на паляўнічай гаспадарцы. Па берагох рэк і вазёр сыплюцца дзесяткі і сотні стрэлаў і мяшаюць спакойнаму гнездаваньню вадаплаваючай птушкі.

Зараз, як ніколі, трэба прыняць усе меры, каб у гэтую вясну ўсякае глушэньне рыбы і не дазволеная страляніна на паляўнічых угодзьдзях не рабілася. Паляўнічыя арганізацыі разам з рыбацкімі аб'яднаньнямі павінны зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу і прыняць усе меры да зьнішчэньня страляніны рыбы ўвясну. Трэба ўстанавіць кантроль над вадзянымі ўгодзьдзямі. **В. С.**

## Бярэце прыклад.

Грамадзянін м. Смалявічы Іван Бутор сам не паляўнічы, а можа быць прыкладам для паляўнічых па ахове дзічы.

Сьнежныя завеі з самага пачатку зімы загналі стада курапатак у гумно Івана.

Заўважыўшы палохлівых, галодных курапатак, Бутор стаў ім падсыпаць трухі з сена, а сам пагля-даў, як яны жыравалі.

Бяда,—умяшаліся тут сарокі і вароны і пачалі адганяць курапатак. Грамадзянін Бутор прыдумаў абарону курапатак: ён зрабіў ход пад падлогу гумна і там ім сыпаў сянную труху. Курапаткі прывыклі, заўсёды мелі ў дастатку корму, заставаліся ў гумне, і настолькі асьмялелі, што сталі падыходзіць да хлявоў Бутора. Курапаткі і зараз жывуць у гумне Бутора.

**Жук.**



**М. Алексеев.**

## К предстоящим выставкам.

ВОТ уже середина весны, не заметишь как подкатится время выводок и выставок,—самое интересное время для уже искусившихся охотников.

Округа зашевелились. Витебск и Полоцк уже назначили числа своих выставок. Раскачивается, кажется в этом году, даже Мозырь.

Но назначить число этого мало, надо суметь, как следует, приготовиться к выставке, чтобы сделать ее интересной, собрав достаточное количество экспонатов, и вместе с тем неубыточной для товарищества.

Теперь во всех округах уже образованы секции кровного собаководства, следовательно, есть кому взяться за дело и провести его с должным успехом. Я не хочу сказать, что выводки и выставки прошлого года были сплошь неудачны, некоторые из них прошли очень хорошо. Возьмем, к примеру, Гомель, если принять во внимание, что выставка устраивалась там впервые,—ее можно назвать прямо блестящей, но были случаи и неподготовки заранее надлежащего места и недостаточной осведомленности членов в районах, а ведь в этой осведомленности вся суть.

Выводки устраиваются не для кружка лиц, группирующихся возле окружного центра. Пусть участвуют городские охотники, но основная цель выставок—расшевелить деревню, вытащить на показ деревенскую собачку.

Необходимо выяснить, что имеется в деревне, а материал там есть,—ведь „Мушка" и „Нерро" (лучшие гончие IV-й Всебелорусской выставки) взяты не где-нибудь в питомнике, а в деревне. Вместе с тем надо показать хорошую собаку охотнику-крестьянину.

Наш охотник на 90 проц. крестьянин, который, в сущности, один и может как следует нагонять гончую. Он один может уделить на это достаточно времени. Охотничьи товарищества, получая из питомника щенков, должны скорее продвинуть их в деревню—бедняку-охотнику, а потом оттуда можно будет получать материал обратно и для питомников и для охоты, и материал рабочий, а не цепной или подушечный.

Крестьянин должен познакомиться на выставках с тем, какой должна быть собака, в каком виде надо ее держать. Выставляя свою, он выучится готовить ее к выставке, поймет, что и в деле собаководства товар надо показывать лицом, что порядок побеждает. Пока же, везя на базар кабана, он моет его, а собаку выводит на выставку в безобразном виде. Приучившись приводить собаку в порядок к выставке, он приучится держать ее в порядке и дома,—чистить и холить своего друга, а чистка необходима,—она вторая кормежка.

Чтобы подойти поближе к крестьянину-охотнику, чтобы узнать, не сохранилась ли где в глуши породная собака, надо устраивать выводки и в районах. Тем округам, которые думают, что у них в центре выставлять сейчас нечего,—старое получило свою оценку, а молодое не подросло, следует сделать это уже в нынешнем году. Районы надо выбирать сначала особенно богатые собаками и отдаленные от центра, а потом дойти до того, чтобы устраивать, хотя бы через год, во всех.

Для такого количества выводок, потребуется конечно большое количество судей,—их надо создавать на местах. Для этого следует назначать к судье учеников, так называемых стажеров, чтобы они научились разбираться как в породе, так и в экстерьере собак.

Стажеров назначают обычно по два в каждую породу, из лиц более интересующихся этой породой, более или менее знающих, так как полного неуча скоро не научишь.

Перед выставкой или выводкой стажер должен выучить стандарт своей породы, по имеющимся для этого описаниям, и проверить свое знание на собаке. Точно также должен изучить он и экстерьерные (видимые физические) недостатки. С такой подготовкой, т.-е. выучив и проверив стандарт и экстерьер, стажеру будет легко слушать об'яснение судьи и, таким образом, совершенствоваться.

Некоторые думают, что выставки убыточны и боятся поэтому их устраивать. Убыточны они могут быть только при неправильном, бесхозяйственном устройстве и при лишних тратах.

Устраивать выводки и выставки следует обязательно с платным входом, изыскать способы привлечь зрителей и, насколько возможно, сократить расходы, применяя, главным образом, бесплатный труд. Каждый член союза (а про членов секций и правления и говорить нечего) должен считать выводку или выставку своим личным делом и вносить в проведение ее свою лепту, главным образом, конечно, личным трудом, тогда сократятся расходы на платных обслуживателей.

Когда в Бобруйске, не покладая рук, работают и члены правления, и члены секции, и, даже, члены их семейств, об убытке не слышно. Если же будет оплачиваться каждый шаг, сделанный членом товарищества, даже разгуливание с бантом на груди по судейскому рингу, кассиры и контролеры все платные,—дохода ждать, конечно, трудно.

Окончатся выводки, придет время полевых испытаний, а затем и проб гончих.

Легавых в Белоруссии немного, исключение составляет один Витебский округ. Устраивать испытания в каждом округе, пока, до разведения большего количества собак, пожалуй, рано; но хорошо, если бы несколько округов об'единились и устраивали такие испытания совместно. Хорошо, если бы взял на себя инициативу Гомель, и, как занимающий центральное положение в железнодорожном узле, сговорился бы с Могилевом, Мозырем и Бобруйском. Учить и понуждать Витебск не приходится, но хорошо, если бы он, как более опытный, помог в деле собаководства Орше.

Что касается полевых проб гончих, то к ним надо подготовиться более серьезно, чем в прошлом году, следует более точно установить места, изобилующие зайцем, своевременно их заказать и, соответствующим образом, охранять. Ведь, за неимением зверя были сорваны в прошлом году пробы в трех округах. Нельзя складывать оружия из-за прошлогодней неудачи, но нельзя и повторять прежние ошибки. Учтя опыт прошлого года, подготовимся к выставкам в 1929 г.

---

Алесеў.

# „Унівэрсалы“ і сабакагадоўля.

„Паважаны А. С., выбачай, што я так доўга маўчаў адказаць на твой ліст. Прычынай да таго—сенажаць і іншае праца па гаспадарцы, а тут яшчэ не дачакацца было дня паляваньня. Мой унівэрсальны кундаль па балотах ня ходзіць, а ўсё плавае, дый плаваць слаб, бо крыху завяськеў і дужа часта вылязае на бераг і галасуе за палудзень. Калі яму асыгнуеш качку на палудзень, дык ён тады доўга аблізваецца і звычайна яго пасьля палудня шыбае ў сон. Вось так з ім і праходзіць паляваньне.

Можа ня ведаеш, што такое „унівэрсал“? Дык вось, слухай, я ў кароткіх рысах апішу і калі табе ён вельмі падабаецца, дык у нашым краі за рублёў 30—40 можна атрымаць. Бацька гэтага ўнівэрсала ня хто іншы, а звычайны, як і трэба, кабель „такса“, які надта добра працаваў і на зямлі, і пад зямлёй, і не даваў прыпынку лісам. Матка яго была ганаровая, вялізная і з ольная да зайцоў і лісоў—полька, гаспадар гэтых знатнасьцяй вядомы табе сабакавод Карлека Аўсей. Такім чынам, вывеліся ўнівэрсалы, якія маюць надта цікавы выгляд, здольнасьці, натуру як: хвост ганчака доўгі, сярпом, лоб шырокі, вочы разумныя, вушы як рукавіцы—вісячыя, вялікія (калі слухае, дык закасвае). Ногі надта кароткія, як у таксюка, а ступні вельмі вялікія ды крывыя, якія былі ў нябожчыка Р. Калі памятаеш. Увесь ён не вялічкі, крыху большы за таксы. Нюх звыш звычайнага—чуе ўсё: зайца, ліса, качку, цецярука, хлеб, сала ў торбе, дзе нясецца курыца і ўсё гэта вельмі добра ганяе; за зайцам ідзе ціха і, такім чынам, апошні далёка ня прэцца, і ёсьць мага хутка забіць. Рушае хутка і голас дае часта, магутны і грубы. Па голасу ня ўступіць саборнаму дзяку. У норы лісіцы, пад печ, у печ, на стол, на печку і да сьвіней ў хлявок лазіць спрытна і бяз прымусу. Што толькі там ёсьць, дык усё павыгане, за што карыстаецца вялікім аўтарытэтам гаспадынь, якія заўсёды, як адарвецца з цэпу, стараюцца яго пачаставаць чапялой або вілачнікам, але яму гэта таксама непачым, як унівэрсалу. Дык вось, браток, з якім сабакам мне прыходзіцца паляваць, ды пра лепшага і больш здольнага я і ня думаю, бо з ім паляваньне бывае надта задачлівае, ды і сабак шмат ня трэба трымаць. Адно толькі кепска, што з ім неяк сорамна далучацца да паляўнічых з добрымі сабакамі.

З прывітаньнем Н. П“.

Чытаючы гэты ліст паляўнічыя падумаць аб фэльетоне, аб мане, на што здольны амаль усе паляўнічыя. Але-ж трэба заўважыць, што ліст гэты вясковага паляўнічага. Парода ўнівэрсала зьяўляецца аднэй з лепшых у нашых вясковых паляўнічых.

Зьмяшчаючы гэты ліст фэльетон, маёй задачай зьяўляецца ў кароткіх рысах адказаць на ўсе разважаньні аб непатрэбнасьці разьвіцьця кроўнае сабакагадоўлі ў БССР і ўнесьці некаторыя новыя думкі і карэктывы ў гэтай новай галіне паляўнічае гаспадаркі. Аднэй з асноўных груп нашых паляўнічых, дабываючых пушніну, зьяўляецца група сялянская—група вясковых паляўнічых. Амаль 90 проц. усёй пушніны дае нам вёска. Гарадзкіх паляўнічых у большасьці трэба аднесьці да групы спартсмэнаў, да паляўнічых, якія асноўнай сваёй мэтай ставяць скарыстаць вольны час, пабыць на сьвежым паветры і г. д. Зразумела, гэта добра і неабходна, але-ж яна не вырашае тых задач, якія ставіць перад сабой паляўнічая каапэрацыя.

Як-жа абстаіць справа ў нас з сабакагадоўляй? Гадавальнік, арганізаваны ў 1926 годзе, мае ў сучасны момант 11 выжловак і 5 выжляцоў. Утрыманьне гадавальніку (без затрат на дабытых сабак за 1928 год) абышлося у 4036 руб., а раздана шчанюкоў за тойжа год 35 штук. Значыць, каштоўнасьць аднаго шчанюка—каля 115 руб., а калі адкінуць выдаткі на загадчыка, які абслугоўвае ўсе акругі, незалежна ад гадавальніка, удзяляючы ўвагі на адну чвэртку свайго службовага часу гадавальніку, дык ён ровен 81 рублю. Значыць, кошт шчанюка з гадавальніка перавышае фактычную яго каштоўнасьць. І за гэту цану, а нават і значна дзешавей яго можна купіць з прыватных рук і арганізацый, але дзе купіць? Пры павялічэньні шчанюкоў да ста ў год, ён будзе каштаваць і ў гадавальніку ня больш 30—35 рублёў, гэта значыць, таньней „унівэрсала“. Адсюль вынікае, што замест зьнішчэньня гадавальніка, яго неабходна пашырыць і павялічыць, асабліва за лік выжловак, прычым сялянам-беднякам і іншым катэгорыям, якія аслабонены ад збораў, трэба даваць бясплатна, астатнім па яўнічым шчанюкоў прадаваць. Зразумела, я цалкам стаю за абмежаваньне права на карыстаньне гэтымі сабакамі і атрыманьня часткі прыплоду ў карысьць саюзу, запісы ў радаслоўную кніжку і інш. Гэта падкрэсьліваецца яшчэ і тым лістом, дзе гаворыцца аб цане ўнівэрсала ў 30—40 руб. Другі момант, ня менш цікавы—аб разьмеркаваньні шчанюкоў. Тут трэба рашуча праводзіць клясавую лінію ні дапушчаючы ніякіх пратэкцый.

## Левая рука ня ведае, што робіць правая.

У свабодны час... Падымаю адваротны бок каляндара „Паляўнічы Беларусі“ за люты месяц і чытаю: „да канца месяца ў лісіцы пачынае цечка“. Пераварачваю на другі бок старонку сакавіка месяца і чытаю: „лісіца—цечка ў сярэдніх губэрнях і паўночных. Лінька“. Бяру другі нумар часопісі „Паляўнічы Беларусі“, на старонцы чацьвертай чытаю: „в только что минувшем хозяйственном году из СССР было вывезено на сто миллионов руб. пушнины, занявшей в ряде прочих экспортных товаров 3-е место“.

Далей перада мною падрабязны пяцігадовы плян аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі Беларусі і нарэшце пастанова праўленьня з высокай санкцыяй Наркамзему аб працягу паляваньня на лісіцу да 10 сакавіка гэтага году.

У гэтым-жа нумары часопісі вялізны артыкул т. *Данькова* аб вясеньнім паляваньні, дзе выяўляецца ўся шкоднасьць яго для паляўнічай гаспадаркі. Процівастаўвячы гэтыя акалічнасьці, трэба сказаць, што „левая рука ня ведае, што робіць правая“ ў нашага Праўленьня „Белкохотсоюза“. Пішам, крычым, будуем і тут-жа разбураем.

Для мяне зусім зразумела, што Праўленьне „Белкохотсаюза“, ставячы пытаньне перад НКЗБ аб працягу паляваньня на лісіцу да 10 сакавіка, выходзіла выключна з загатоўчай кампаніі пушніны гэтага году. Але-ж праўленьне і НКЗБ зусім забыліся, што дазвол паляваньня на лісіцу ў пэрыад самай цечкі, цягне за сабой разбурэнне паляўнічай гаспадаркі і ні аднэй лісіцы, а цэлага шэрагу і іншага пушнога зьвера.

Стрэл, учынены ў сакавіку месяцы па лісіцы, ровен стрэлу вясеньняму па пярнатай дзічы. Сабака пакідае гнаць лісіцу і бярэцца ганяць зайца, а калі забіваецца лісіца-самка, дык з ёй гіне і патомства. Такім чынам, паляваньне аднаго году звыш устаноўленага тэрміну вядзе да зьнішчэньня дзічы.

Частка таварышоў кажа, што ўсёроўна быў мароз і лісіца засталася цэла, але-ж Праўленьне фактычна ўзаконіла браканьерства гэтым.

Прызнаваючы сваю памылку, частка праўленцаў ставіць так пытаньне. Не належыць падымаць „бучы“ вакол гэтага пытаньня, бо лісіца зьвер драпежны і наогул пры павялічэньні лісіцы ў апошнія гады мы маем зьмяншэньне зайца і некаторай птушкі, чаму па іх думцы, належыла-б наогул лісіцу аднесьці да драпежных зьвяроў. Мне здаецца, што гэтыя тавары-шы забываюцца аб тым пэрыадзе, у якім мы жывем, і зусім забываюць задачы паляўнічай каапэрацыі. Калі разумець нашу сучасную паляўнічую каапэрацыю як нейкую касту прывілейных асоб, а паляваньне як пацеху, і толькі, дык гэта верна. Але-ж, калі выходзіць з тых задач, якія мы ставім перад паляўнічай каапэрацыяй як гаспадарчай адзінкай, ды вылучыць з агульнае сумы пушной загатоўкі тую суму, якая выпадае на мех лісіцы, дык убачым, што яна займае першае месца па БССР. Зразумела, што праз некалькі год, пры разьвядзеньні больш каштоўнага зьвера, для пушніны лісіца магчыма згубіць сваю сёняшнюю каштоўнасьць, але-ж зараз мы павінны з ёй лічыцца і такіх памылак больш не дапушчаць.

**А. Судакоў.**

## Браканьер з білетам.

28 га студзеня 1929 г. у вучастку лесу Астравы, Валынецкага л-ва Полацкай акругі, была аблава на ваўкоў. У час загону ваўкоў на стралкоў вышлі дзікія козы. Усе паляўнічыя прапусьцілі іх бяз стрэлу, але сябра Саюзу паляўнічых Уладзімер Янкаў Дарафееў, дзякуючы смагнасьці, застрэліў казу і, каб захаваць гэта злачынства ад астатніх паляўнічых, закапаў яе ў сьнег, а ў начы прыехаў, забраў і прывез дамоў.

Але гэта прачулі акалічныя паляўнічыя, якія склалі камісію, якая і высьветліла злачынства Дарафеева.

Памыліцца Дарафееў ня мог, бо каза забіта на чыста высечанай паляне і яскрава было відаць, што гэта ня воўк. Дарафееў прыцягнут да адказнасьці. Такі паляўнічы павінен быць выключан з саюзу, бо калі ён адважыўся на аблаве, дзе многа народу, рабіць такое злачынства, то што ён ўтварае, калі адзін ідзе на паляваньне,—для яго ніякіх тэрмінаў і забарон на паляваньне ня існуе.

**Ікс.**

## Гісторыя аднае гаспадаркі.

Савет віцебскага таварыства паляўнічых яшчэ ў лістападзе мінулага году пастанавіў падняць хадайнічаньне аб скарачэньні тэрмінаў паляваньня на зайцоў у 1929 годзе да 1 лютага (замест 15 лютага). Гэта хадайнічаньне ў тэрміновым парадку пайшло ў Віцебскі акруговы зямельны аддзел і ЦП „Белкохотсоюза“.

Прыбыўшы ў Акрза, яно, трохі адляжаўшыся і патаўсьцеўшы на адну паперку, паплыло ў Акрвыканком. Шлях у АВК вельмі доўгі (у тым-жа будынку, але толькі другі пад'езд) і таму зайцаваму хадаку прышлося страціць некалькі дзён на адпачынак і толькі пасьля павялічэньня вагі і аб'ёма накіравалася ў Адмаддзел АВК.

Адмаддзел знаходзіцца ад сакратарыяту АВК на адлегласьці ня менш 1 кілёмэтру, а таму хадайнічаньне на самай законнай падставе па згаджэньні з аддзелам працы атрымала чарговы дэкрэтаваны водпуск і толькі пасьля гэтага пайшло да юрысконсульта. У юрысконсульта ўся гэта куча папер не магла, вядома, проста ляжаць і праз некалькі дзён была накіравана да пракурора.

У пракурора хадайнічаньням па штату не пакладзена доўга чакаць і таму яно хутка перайшло на стол памочніка пракурора. Памочнік пракурора вядома не пракурор, але усё-ж затрымліваць паперкі больш пакладзенага тэрміну ня мае права і таму, як толькі прайшлі ўсе адзнакі зьдзіўленьня, і неўразуменьня, памочнік пракурора сказаў: „Хай Менск дазваляе законнасьць такога хадайнічаньня“.

Па шчасьліваму сьцячэньню акалічнасьцяй хадайнічаньне аб зайцох пайшло ня ў Менск, а назад да пракурора па знаёмай дарозе і да канца студзеня зьвярнулася, але не ў таварыства паляўнічых, а ў АВК, які і пастанавіў: „никакого постановления не выносить“.

„Белкохотсоюз“ знаходзіцца далей чым Акрза і, прымаючы пад увагу сьнежныя заносы і моцныя марозы, вестак аб месцы знаходжаньня хадайнічаньня ня маецца. Мусіць пацярпела аварыю ў дарозе.

**Зацікаўлены.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

**Зацьверджана пастановаю Праўленьня „Белкахотсаюза“ (пратакол ад 14 сакавіка за № 6).**

## Палажэньне

### аб сельскіх ячэйках пляўнічай каапэрацыі.

1. У мэтах большага і лепшага арганізацыйнага абслугоўваньня членаў саюзу паляўнічай каапэрацыі і палепшаньня справы барацьбы з браканьерствамі драпежнікамі ў сельсаветах якіх налічваецца членаў саюзу ня менш 5-ці чалавек ствараюцца сельскія ячэйкі паляўнічай каапэрацыі.

2. Задачамі ячэек зьяўляецца: а) распаўсюджваньне сярод членаў паляўнічай каапэрацыі і насельніцтва мерапрыемстваў паляўнічай каапэрацыі і ворганаў улады, якія датычацца паляўнічай гаспадаркі, б) ажыцьцяўленьне розных мерапрыемстваў па разьвіцьцю і вывучэньню паляўнічай гаспадаркі, в) ажыцьцяўленьне нагляду за захаваньнем усімі членамі саюзу правіл паляваньня і барацьбы з браканьерствам, барацьбы з драпежнікамі і разбурэньнем птушыных гнёзд, а таксама па вядзеньню зьнішчэньня шалёных і бадзячых сабак і кошак, г) садзейнічаньне і арганізацыя культурна-асьветнай працы сярод членаў саюзу шляхам садзейнічаньня распаўсюджваньня часопісі, паляўнічай літаратуры, арганізацыі культурна-асьветных гурткоў, арганізацыі паляўнічых куткоў пры хатах-чытальнях, арганізацыі гутарак аб паляўнічай гаспадарцы і па іншых мерапрыемствах паляўнічай каапэрацыі і ўлады для членаў саюзу і сярод насельніцтва, д) садзейнічае і арганізоўвае разьвіцьцё стралковай працы сярод сваіх членаў, е) садзейнічае штогодняй перарэгістрацыі і найбольш пасьпяховаму правядзеньню пушных загатовак, ж) дае заключэньне на асоб, жадаючых уступіць у члены саюзу, з) выконвае ўсе мерапрыемствы па даручэньнях і прапановах бюро раённых каляктываў.

3. Выканаўчым органам ячэйкі зьяўляецца бюро, якое выбіраецца на адзін год на агульным сходзе ячэйкі ў колькасьці трох членаў і аднаго кандыдата. Бюро ячэйкі выбірае з свайго складу старшыню і сакратара. Склад бюро ячэйкі зацьвярджаецца бюро адпаведнага райкаляктыву. Ячэйкі з лікам членаў менш 10-ці чалавек абіраюць замест бюро старшыню ячэйкі.

4. У выпадках, калі паасобныя члены бюро ячэйкі не апраўдалі давер'я выбіраццеляў, агульны сход ячэйкі можа іх датэрмінова пераабраць. Датэрміновы перавыбар усяго складу бюро ячэйкі можа вытварацца па запатрабаваньнях ня менш паловы агульнага ліку членаў ячэйкі і абавязкова з санкцыі акруговага праўленьня.

5. Агульныя сходы ячэйкі склікаюцца ня менш аднаго разу ў два месяцы. Сходы адчыняюцца старшынёю і для вядзеньня сходу выбіраецца прэзыдыум. Пратаколы агульных сходаў падпісваюцца старшынёю і сакратаром сходу. У пратаколах паказваецца паіменны сьпіс асоб, якія прысутнічалі на сходзе. Пратаколы агульных сходаў, а таксама і пратаколы бюро ячэйкі падлягаюць зацьверджаньню бюро каляктыву.

6. Бюро ячэйкі альбо старшыня ячэйкі робіць справаздачу на агульным сходзе членаў ячэйкі ня менш. як два разы ў год. Дасылае свае пісьмовыя справаздачы бюро каляктыву ў тыя-ж тэрміны.

7. Агульны сход ячэйкі, а таксама і бюро ячэйкі мае права ў неабходных выпадках за парушэньне правіл паляваньня, за нявыконваньне мерапрыемстваў паляўнічай каапэрацыі, нерадзівасьць у барацьбе з браканьерствам, няпрыйманьне ўдзелу бяз уважлівых прычын у аблавах на драпежнікаў налагаць дысцыплінарнае спагнаньне да пазбаўленьня права паляваньня на тэрмін ня больш 3-х месяцаў з наступным зацьвярджэньнем гэтых пастаноў бюро раённага каляктыву.

8. Агульныя сходы склікаюцца бюро альбо старшынёю ячэйкі, а ў неабходных выпадках па запатрэбаваньнях і самых членаў ячэйкі, пры чым лік іх павінен быць ня менш, як адна трэцяя частка агульнага ліку членаў ячэйкі.

9. Ліквідацыя ячэек можа быць зроблена па пастанове агульнага сходу з наступным абавязковым зацьвярджэньнем акруговым праўленьнем, альбо па ініцыятыве і пастанове акруговага праўленьня.

Старшыня праўленьня *Данькоў.*

Сакратар *Багданаў.*

## Выпіска

**з пратаколу № 7 пасяджэньня праўленьня „Белкохотсаюза“ 26 сакавіка 1929 года.**

| СЛУХАЛІ: | ПАСТАНАВІЛІ: |
|---|---|
| 4. Аб дадатках да палажэньня аб паявых і гадавых узносах паляўнічай каапэрацыі. | 4. 1) Членаў калгасаў і камун прыраўняць да 3-й катэгорыі.<br>2) Чыгуначную варту прыраўнаць да міліцыі.<br>3) Саматужнікаў, аб'яднаных ў арцелі, прыраўнаць да саматужнікаў-адзіночак.<br>4) Сялян, якія плацяць сельгаспадатак да 10 руб., аднесьці да 3-й катэгорыі.<br>5) Партызанаў Чырвонае Арміі, якія маюць на гэта дакумэнты, аднесьці да 2-й катэгорыі.<br>6) Кваліфікаваных рабочых, якія зьяўляюцца сэзоннымі беспрацоўнымі, адносіць да катэгорыі, на падставе заробку ў час працы. |
| 5. Аб модусу прадстаўніцтва на акруговыя сходы і на Ўсебеларускі зьезд. | 5. 1) Раіць акруговым таварыствам модус прадстаўніцтва на акруговыя сходы ўстанавіць 1 дэлегат ад 75 членаў.<br>2) Устанавіць модус прадстаўніцтва на Усебеларускі зьезд 1 дэлегат ад 400 членаў.<br>3) Устанавіць, што ў выбарах маюць права ўдзельнічаць толькі члены, якія заплацілі ўзносы на права паляваньня на 1929 год. |

Старшыня Праўленьня *Данькоў.*

Сакратар *Багданаў.*

# НОВЫЕ КНИГИ.

**А. Р. Штамм. Руководство к организации и ведению охотничьего хозяйства. Изд. журнала „Охота и Природа“.**

Появление чисто практических руководств по организации и ведению охотничьего хозяйства и при этом применительно к нашим условиям—в высшей степени ценно, и с этой точки зрения работу А. Р. Штамма необходимо всячески приветствовать.

В предисловии автор справедливо указывает на то „что потребность в переходе к новым формам хозяйничания“ в области охоты „давно назрела“, что „об этом пишут, об этом кричат с мест“. Не надеясь на то, что „у нас скоро удастся всех охотников превратить в охотников-хозяев, желающих заняться своим хозяйством, начинающих и выполняющих задания его,—автор надеется на „более организованные центры союза охотников, в окрестностях которых могут быть созданы отдельные охотничьи хозяйства; на опытные сельско-хозяйственные и лесные участки и учебные заведения с исследовательскими задачами и некоторые отдельные группы сознательных охотников, об'единяющихся для ведения охотничьего хозяйства в охотничью ячейку“. При этом сообщается план мероприятий по организации и ведению охотничьего хозяйства.

Вся книга составлена из многих хороших глав (более 20), в некоторых случаях написанных весьма сжато, почти схематично.

В конце книги приложен план поквартального ведения работы в охотничьем хозяйстве, образец ведения книги по охотничьему хозяйству, книги наличия дичи, книги отстрела хищников, расхода дичи. Имеется также очень полезная таблица условных знаков для охотничьих карт и для обозначения на них видов зверей и птиц.

Из недостатков работы следует отметить значительную схематичность некоторых наиболее ответственных глав, как, например, главы о дичеразведении и звероводстве, обнимающие 1½ страницы (55 строчек), вследствие чего, сообщенные здесь сведения не имеют необходимых практических указаний. Ведь важно сказать не только о том, что делать, но необходимо указать еще, как это сделать. В этом отношении страдают и другие главы, к примеру глава о борьбе с хищниками (стр. 62-63), где упоминается об охоте на них при помощи филина, но достаточного указания, как именно организовать эту охоту нет, а ведь этот вид охоты у нас неизвестен огромному большинству охотников, ибо практикуется преимущественно в Западной Европе и в Прибалтике в частновладельческих охотничьих хозяйствах.

Некоторое недоумение вызывают отдельные указания автора относительно порядка производства работ в охотничьем хозяйстве. Так, например, в апреле рекомендуется „отстрел хищных птиц у гнезда“. В это время („применительно к условиям средней полосы России“. стр. 83) у гнезда хищных птиц, кроме, разве, неясыти и ворона (которых к категории собственно хищных нельзя относить) не убьешь. Главнейший разбойник—ястреб-тетеревятник в апреле только начинает токовать, а к гнезду среди голого леса не подпустит. Вернее надо было-бы сказать „не об отстреле у гнезда“, а об учете и продолжении разыскивания (что можно делать в течение всей зимы) прошлогодних гнезд, часто занимаемых хищниками и пока лес не облиствен—хорошо заметных. Отстрел же, несомненно, должен быть перенесен на май и июнь—когда имеются кладки и птенцы. Опыт нескольких орнитологических экспедиций убедил меня, что лучшим временем для отстрела тетеревятников и других хищников—является время с конца мая (время вылупления из яиц молодняка) и до половины июля (время вылета из гнезд молодых). Пока же птица сидит на яйцах—гнездо мало чем выдает себя, но с появлением птенцов в них—деятельность стариков удваивается, благодаря чему, разумеется, легче их проследить и подкараулить у гнезда (где все-таки при подкарауливании необходима маскировка охотника), а, кроме того, далеко выбрызгиваемый птенцами белый помет выбеливает окрестные кустарники и траву под деревом с гнездом так, что его легко заметить даже и зеваке.

То же самое надо сказать и об *августовской программе*, где также рекомендуется „отстрел молодых хищных птиц у гнезд“.—Увы, в августе уже молодых птенцов у гнезд, как правило, не бывает (кроме, разве беркута и др. крупных орлов), они уже покидают к этому времени гнезда и пробуют вести самостоятельный образ жизни, а если иногда и подкармливаются стариками, то, во всяком случае, не на гнезде, а где-либо в стороне от гнезда. Истребление на гнездах стариков и молодых—успешнее всего производить, повторяю, с конца мая и до половины июля, после чего у гнезда уже обычно их не найти, что, между тем, у автора совсем выпало из программы работ в эти месяцы.

Если же игнорировать эти незначительные недочеты автора, а также указанную иногда нежелательную схематичность изложения, доходящую до краткого конспекта, понижающую практическую ценность руководства (что впрочем могло произойти и не по вине автора, а издательства, слишком поскупившегося на необходимый размер книги), надо признать, что книга А. Р. Штамма, как по полноте задуманного плана, так и по характеру своей темы является, безусловно, ценным вкладом в нашу, все еще бедную, научную и практическую охотничью литературу и ее следует рекомендовать, как можно шире внедрить среди охотничьих об'единений, лесничих, студентов лесных факультетов и всех лиц, интересующихся вопросами охотничьего хозяйства.

**А. В. Федюшин.**

**Проф. д-р Г. Мюллер „Здоровая собака“**. Перевод с немецкого, под редакцией и с добавлениями **проф. А. Н. Макаревского**. Изд. Белорусского Государственного Ветеринарного Института. Книга 9, Витебск, 1929 год, стр. 219, рис. 108. Ц. 2 р. 25 коп.

Книга эта является ценным вкладом в нашу кинологическую литературу, так как исчерпывает все сведения, необходимые любителю собаки. Особенно интересен в ней первый отдел, знакомящий с историей собаки на основании остатков ее скелета, найденных в разное время по всей Европе, изображений на различных древних памятниках и сохранившихся исторических документах. Из этих документов видны отношения к собаке различных древних народов (ассириян, египтян, греков, римлян и друг.) и обязанности, какие она у них несла. Видно, например, что греки и римляне употребляли собаку в качестве защитника на фронте, где, закованная в латы, она сражалась наравне с воинами и что за кражу охотничьей собаки и в древние времена виновные несли тяжкую ответственность.

Отдел этот иллюстрирован интересными фотографиями, снятыми с древних памятников и барельефов. Отдел анатомии в сжатой, но вполне ясной и всем доступной форме знакомит с строением собаки; он добавлен главой, написанной проф. Макаревским „топография внутренних органов собаки“ и снабжен очень хорошо исполненными рисунками скелета и внутренних органов.

Очень подробно разработаны отделы разведения, содержания и кормления собаки. В последнем описаны интересные опыты кормления одной какой-либо составной частью кормовых веществ и результаты этих опытов, а также даны советы наиболее рационального кормления. В отделе о породах собаки вначале разделены на группы по их легко распознаваемым признакам, а затем по их использованию и даны стандарты почти всех существующих в настоящее время пород.

Стандарты эти самое слабое место книги,—многие из них устарели и не соответствуют принятым для руководства на выставках, кроме того переводчик, видимо, не знаком с нашей кинологической терминологией. Странно звучит „хвост“ в стандартах сеттера и пойнтера, вместо „пера“ и „прута“; не употребляется у нас выражение „опахало“ при изображении „пера“, а есть подвес; нет шерсти „кровавого“ цвета у ирландца; „изгиб впереди глаз“ известен всем охотникам под названием „перелома“ и много еще подобных погрешностей в терминологии. Вообще стандарты не ясны, как-то расплывчаты и не дают ясного понятия об описанной собаке. Ошибочно названы части тела и на прилагаемом рисунке: „соколком“ называется не грудной хрящ, а выдающаяся часть затылочного гребня,—„востряком“ он не называется ни у одной породы; почки у борзой называются „мочами“, а „колодкой“ у всех пород называется все туловище без ног и головы и т. д.

Заканчивается книга двумя очень интересными приложениями профессора Макаревского: в первом он знакомит с очень интересным вопросом о метизации собаки с лисицей, и во втором (перевод статьи проф. С. А. Грюнера) с собаками севера, Азии и Америки и ездой на них.

**М. Алексеев.**

# ПЕРАПІСКА З ЧЫТАЧОМ

**Дайняку.** Вясеньняе паляваньне ў БССР забаронена (глядзі часопіс „Паляўнічы Беларусі" № 2). Ствалы для дубальтоўкі не прадаюцца.

**Данчэнку.** Лягавы шчанюк 3-х месяцаў каштуе 15-25 рублёў, гадавалы ня менш 50 руб.

**Бальшову.** З пытаньнем аб адчыненьні заказьніку належыць зьвяртацца перш-на-перш у РВК, затым у акруговы зямельны аддзел, а потым у „Белкохотсоюз".

**Бяляўскаму І. Л.** Паляваць ні па бацькаўскаму білету, ні па свайму ўласнаму вы ня маеце права да 18-гадовага узросту.

**Якацкаму.** 1) Кнігу „Как увеличить доход от сельского труда" мы выслаць ня можам, бо ў выдавецтве „Паляўнічы Беларусі" яе няма. Гэту кнігу вы можаце або выпісаць з „Госиздата РСФСР Москва", або купіць у яго магазыне ў Менску. 2) У недалёкім будучым партыя трусоў парод „Шэншыловыя" і „Фландр" і інш. будзе ўвезена з-за мяжы ў СССР, з якой частка будзе вылучана і для БССР. Каб атрымаць прыплод з гэтых трусоў або з саміх вытворцаў, трэба падаць заяву ў „Белкохотсоюз" ці ў Наркамгандль.

**Сацукевічу М. В.** 1) Хадзіць з стрэльбай у забаронены час паляваньня па за дарогамі грамадзкага карыстаньня прызнаецца паляваньнем, згодна правілаў аб паляваньні на тэрыторыі БССР і караецца па 125 арт. Крым. Кодэксу. 2) Калі сабака лашчыцца да чужых людзей трэба папрасіць таго, да каго яна лашчыцца, адлупцаваць яе, а гаспадару пасьля гэтага прылашчыць. 3) У Музэй Беларускае акадэміі наук прымаюць птушкі і скуркі ўсіх зьвяроў і птушак. Можна здаваць як цэльныя змясам, так і зьнятыя і засоленыя скуркі. Па гэтаму пытаньню сьпішэцеся з праф. А. В. Фядзюшыным, па адрасу: г. Менск, Паляўнічы Музэй БАН. 4) Згодна правілаў аб паляваньні на тэрыторыі БССР, зьмешчаных у бюлетэні СНК № 17-42 за 1927 год, паляўнічы мае права забіваць усіх бадзячых сабак, якія знаходзяцца па-за сядзібамі і дарогамі грамадзкага карыстаньня без нашыйнікаў і гаспадароў.

Паляўнічыя-ж сабакі павінны быць у такім выпадку злоўлены і дасталеўны ў бліжэйшую паляўнічую арганізацыю. 5) Рэвальвэр можна купіць у спартыўным пралетарскім таварыстве „Динамо". Кошт розны. 6) Совы ўсіх парод, за выключэньнем савы вушастай, можна біць як драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі. Асноўныя правілы паляваньня зьмешчаны ў білеце. 7) Вясною паляваць на гусей ніводзін паляўнічы ня мае права. Увосень, калі яны пралятаюць на поўдзень для зімоўкі, паляваць на іх можна. 8) Часопіс „ПБ" выходзіць штомесяц у канцы кожнага месяца.

## Отовсюду и обо всем.

* В нынешнем году в Башреспублике, Самарской губ. и ральской области замечено сильное заболевание лисиц. При этом заболевании волос по всему телу ломается, как бы сечется, мездра утолщается, само животное тощает.

* В Брянской губ. бешеная волчица покусала 5 человек и 12 лошадей. Плохо, что из этой местности ушел выводок волков.

* В западных округах Сибири появилась в большом количестве водяная крыса, приносящая большой вред созревающим хлебам, а в зимнее время сену. Принимаются меры к ее уничтожению.

* Среди охотников на водяную крысу в Рязанской губ. появились гриппоподобные заболевания с высокой температурой и резким упадком сил, иногда со смертельным исходом. Заболевают, главным образом, имеющие дело с трупами и снимающие шкурки. При с'емке надо быть очень осмотрительным, не производить ее руками, имеющими поранение и избегать укусов животных. Шкурки следует сушить вне жилых помещений.

* По примеру Белоруссии, Украины и Урала, Правление Всекохотсоюза возбудило перед Наркомземом ходатайство о повсеместном воспрещении весенней охоты. До сих пор охота воспрещена в Московской губ., в Сибкрае за исключением двух округов, где разрешена охота на водоплавающую дичь, так как гусь приносит там и в Татреспублике вред посевам.

* В Татреспублике уничтожено в текущем охотничьем году 367 волков и 471 волченков.

* В Муроме, Владимирской губ., ветврачем Троицким произведены интересные опыты излечения чумного паралича впрыскиванием под кожу парного некипяченого молока. После пяти впрыскиваний по 10 куб. см. каждый раз, больное животное абсолютно поправлялось.

* В августе прошлого года под Москвой родился ненормальный англо-русский гончий щенок. На голове у него рог, образуемый носовым хрящем и оканчивающийся отверстием, напоминающим хобот обезьян-носачей. Дышать этим носом щенок не мог, а дышал очень большим ртом. Вместо двух глаз у него был один под хоботом. Уши были правильные, но без отверстия. Жил щенок сутки, не сосал, но есть мог, так как глотал правильно. Родители его и остальные десять щенков помета совершенно нормальные.

* В Баварии близ Нюрнберга под мотоцикл, на шоссе, проходящем через лес, попал дикий козел; как козел, так и ехавший на мотоцикле—убиты.

## Паляўнічыя паведамляюць.

* *Пасьля правядзеньня цьвёрдых правілаў паляваньня* і частковага зьнішчэньня браканьерства ў Барысаўскім раёне павялічылася колькасьць дзічы і нават зьявіліся такія зьверы, якія раней адсутнічалі, як напрыклад: рысі, дзікі, дзікія козы, куніцы і інш.

* *Скуркі здае не ў сваю* арганізацыю паляўнічы Філіповіч Р. М. з вёскі Жэрдная Брагінскага раёну, а *за порахам* і іншымі справамі *ідзе* ў калектыў паляўнічых.

* *Ня лічыцца з законам і палюе* на зайцоў замест лісіцы паляўнічы Жураўскі Б. А. з вёскі Новая Макрыца, так ён 5-III забіў зайца. Трэба пазбавіць зайцоў ад такога драпежніка.

* *Просяць забараніць страляніну* па шчупаках ў паводкі з Магілеўшчыны, бо пад ёй часта захоўваецца браканьерства, а таксама парушаецца пакой сідзячай на яйках птушкі. Трэба зьвярнуць увагу на гэту страляніну каму належыць.

* *Шмат ваўкоў* ў Чэрвенскім раёне, а паляўнічыя ніяк ня могуць арганізаваць аблаву на іх, бо няма ні прылад (флажкі і іншыя), ні спэцыялістага для гэтай справы. Кепска будзе сялянам вясной ад ваўкоў. Трэба падцягнуцца Чэрвенскаму калектыву і ўзяцца, як сьлед за гэту справу.

* *Палюе бяз білета* інструктар Гомельскага акрвыканкома т. Данчэнка, лічачы, што ён вельмі „адказны" працаўнік і таму можа не выбіраць білета. Трэба паклапаціцца, каб і ён выконваў пастановы ўлады.

* *Адчыніць заказьнік* уносіць прапанову паляўнічы т. Бабруйніцкі ў дачы „Лаганцы", Дубровенскага раёну Аршанскай акругі, дзе вельмі цікавае, па яго думцы, месца для гэтае мэты. Трэба зацікавіцца гэтай прапановай.

* *Пакрывае браканьераў* дрысенскі старшыня райкалектыву паляўнічых начальнік міліцыі т. Другавін, замест таго, каб вылаўліваць іх. Так, пад яго забясьпекай палююць заўсёдашнія аматары-браканьеры абаронца Рейшах-Рыт і яго таварыш вайсковы вэтфэльшар. Акруговае праўленьне, зьвярні ўвагу.

* *Не даюць працаваць* паляўнічыя працаўнікам Менскага акруговага таварыства паляўнічых, зьбіраючыся штодзень туды для сваіх разгавораў і прыводзячы сабак. Таварышы паляўнічыя, трэба даражыць чужым часам.

* *1-га сакавіка 1929 году* адбылася пры полацкім акруговым таварыстве конкурсная камісія па зьнішчэньні драпежнікаў. На конкурс было падана 18 пакетаў. Выданы прэміі грамадзянам: Жыхарову, Лаўрову, Буевічу. Апошнім удзельнікам выдадзены ганаровыя дыплёмы.

# НА СПРАВАЗДАЧНА-ПЕРАВЫБАРЧЫХ СХОДАХ АБГАВОРЫМ ПЫТАНЬНЕ ЗБОРУ СРОДКАЎ НА САМАЛЁТ „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

На сёньнешні дзень на самалёт сабрана 11607 руб. 15 кап.

Гэта лічба павінна быць павялічана ў паўтары разы. Пры актыўным удзеле ўсіх паляўнічых у зборы сродкаў на самалёт мы зможам хутка скончыць яго пабудову.

## Паступіла за апошні месяц на пабудову самалёта ад наступных акруг і раёнаў:

| | |
|---|---|
| Ад Гомельскага акруговага т-ва 4 каты на суму | 4 р. 80 к. |
| і 130 зайцаў-русакоў на суму | 97 р. 12 к. |
| Ад Чачэрскага райбюро 38 зайцаў-русакоў на суму | 26 р. 63 к. |
| Ад Брагінскага райбюро | 45 р. 55 к. |
| Вузьдзенскае | 103 р. — к. |
| Чырвонапольскае | 46 р. 55 к. |
| Хойнікскае | 39 р. 30 к. |
| Капыльскае | 33 р. 70 к. |
| Чэрыкаўскае | 7 р. 84 к. |
| Брагінскае | 9 р. 75 к. |
| Веткаўскае | 4 р. 50 к. |
| Прапойскае | 3 р. — к. |
| Быхаўскае | 8 р. — к. |
| Кармянскае | 8 р. — к. |
| Клімавіцкае | 69 р. 59 к. |
| Касьцюковіцкае | 54 р. — к. |

## Індывідуальныя паступленьні

(сюды уваходзяць пералічаныя паступленьні ад раёну).

Шаціло В., Давыдзенка А.. Судзілоўскі Н., Падрашотнікаў Г., Глухаў П., Зайцаў М., Маскалеў С., Марчэнка Н., Лапіцкі П., Зубкоў А., Данчэнка Л., Бараненка У., Дземідзенка Т., Смальцар М., Чарняк І., Драбышэўскі Т., Ганчар Л., Романюк В., Раманюн П., Русак А. Мікойло І., Камандырчык К., Вострանкоў В., Купчык А., Хвіска Н., Сафронаў К., Сыдараў, Казлоў Я., Казіноўскі С., Загорскі В., Мірэнкоў С., Цярэшка М., Гродзкі Н., Лустэнкаў Т., Хомчэнка Л., Чэхуноў Е., Папуша Т., Кузьменкоў Ф., Галубцоў Я., Калістратаў Я., Земашаяў А., Брэзгуноў Р., Макарэнка Е., Ясенка Л., Садкоў С., Кабышоў Л., Дзесяцкі А., Пыпчэнка В., Манашэнка Л., Сешаня А., Жэўноў А., Лістратэнка Т., Стрэльцоў А., Чыж П., Курносенка А., Войтэнкаў І., Рэшэтне Г., Гарбачоў І., Волкаў С., Карпушкін С., Сандлер Г., Шылоў Т., Мослаўцоў Д., Федасенка А., Іваноў Н., Міхеенка Г., Паўлаў В., Драчоў І., Семкін І.

## УНОСЯЦЬ І ВЫКЛІКАЮЦЬ:

*По выкліку т. ШМІДТА ўношу 5 руб. на самалёт „Паляўнічы Беларусі“ і выклікаю наступных т.т. Праф. Прылежаева, Пэрцава (БДУ), Медыша і Афанасьева (Горкі, С.-Г. А.)*
*Праф. А. В. ФЯДЗЮШЫН.*

*Па выкліку т. ШМІДТА ўношу 5 руб. і выклікаю: Крыстафовіча Б. М., Лебедева Н. А. (Віцебск), Ясюнінскага Б. В., Пупышэва П. Ф., Вострακова Б. Д. (Масква), Змудзінскага Г. Е., Лермана Р. А. (Менск).*
*М. АЛЕКСЕЯЎ.*

*Па выкліку т. ШМІДТА ўношу 1 руб. і выклікаю Матусэвіча і Злотнікава (Дзяржбанк).*
*АЛЯКСАНДРОВІЧ.*

*Адказны рэдактар:* **М. Ф. Шмідт.** *Рэдкалегія:* **У. С. Данькоў, Г. Я. Хлеўнікаў.**

313

Цана 30 кап.

**КАЛІ ТЫ СЬВЯДОМЫ ПАЛЯЎНІЧЫ— ВЫПІСВАЙ І ЧЫТАЙ СВОЙ ЧАСОПІС!**

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

**У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ І ДАЕ СВАІМ ГАДАВЫМ ПАДПІШЧЫКАМ У ЯКАСЬЦІ ДАРМОВАГА ДАДАТКУ КНІЖКУ ПА САБАКАГАДОЎЛІ І ПАЛЯЎНІЧЫ ТАБЕЛЬ-КАЛЯНДАР (адрыўны штомесячны) на 1929 год**

**КАБ АТРЫМАЦЬ ДАРМОВА КНІГУ ПА САБАКАГАДОЎЛІ,**

пасьпяшайцеся сваячасна ў пачатку мая месяца прадоўжыць падпіску да канца году.

■■■

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

**з 1 мая да канца году**

**1 руб. 30 кап.**




ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА ў рэдакцыі „П. Б.“ (Менск, Савецкая, 71), Бюро райкалектываў, акруговымі праўленьнямі і паштова-тэлеграфнымі канторамі.

**Умовы падпіскі: на год—2 руб., на паўгода—1 руб. 20 кап., на 3 м-цы—70 кап.**

## ВЫДАВЕЦТВА „Паляўнічы Беларусі“

### МАЮЦЦА ДЛЯ ПРОДАЖУ:

Проф. **А. В. Федюшын.** Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР . 1929 . 1 р. 50 к.

**І. Квяткоўскі і В. Федасееў.** Як здымаць шкуркі з пушных зьвераў. Перапрацавалі і прыстасавалі да беларускіх умоў Данькоў і Шмідт . . . — 25 к.

„Паляўнічы насьценны табель-каляндар на 1929 г.“ (штомесячны адрыўны) — 10 к.

Камплекты часопісу „Паляўнічы Беларусі“ за 1927 і 1928 г. . . . 3 р. —

**Пералічаная літаратура высылаецца па атрыманьні грошай ці наложаным плацяжом**

ПЕРАСЫЛКА ЗА КОШТ ВЫДАВЕЦТВА

*АДРАС: г. Менск, Савецкая, 71, В-ва „Паляўнічы Беларусі“.*

*УЧЫНЯЕЦЦА ЗАПІС ПАЛЯЎНІЧЫХ У СТРАЛКОВЫЯ СЭКЦЫІ І ГУРТКІ Ў МЕНСКУ.*

*Менскім праўленьнем т-ва паляўнічых—Савецкая вул., № 71 (у двары) і ў акрузе ў наступных старшынь раённых бюро — Барысаў, Бярэзіна, Пухавічы, Чэрвень, Лагойск, Койданаў і Узда.*

*У тых раёнах, якія тут не паказаны, запіс пачнецца ў скорым часе.*

*Просьба да таварышоў паляўнічых—запісвацца.*

## ВЫСТАВКУ СОБАК

**ВСЕХ ПОРОД**

*УСТРАИВАЕТ Витебское окружное кооперативно-промысловое товарищество охотников 12 МАЯ 1929 г. в гор. ВИТЕБСКЕ.*

Судьями приглашены: **М. И. Алексеев** (г. Минск) и **Б. В. Ясюнинский** (г. Москва).

**ЛУЧШИМ СОБАКАМ будут выданы денежные награды и почетные ценные призы.**

ЗАПИСЬ ПРИНИМАЕТСЯ

г. Витебск, товарищество охотников, Замковая ул., дом № 3.

Друкарня „БДВ“. Зак № 2180. У ліку 10.000 экз. Галоўлітбел № 1254.